# СЬВЕТАЧ ХРЫСТОВАЕ НАВУКІ

ПЕРШЫ БЕЛАРУСКА-ЭВАНГЕЛЬСКІ ЧАСАПІС

Год выд. 33 — 1966 — № 3(84)

## Гімн любові

*Калі я гавару мовамі чалавечымі і анельскімі, а любові ня маю, дык я падобны да медзі звінячае ці цымбалаў гудзячых.*

*І калі я маю дар прароцтва, і ведаю ўсе тайніцы і ўсякае ведань-не, і калі я маю ўсю веру, каб мог і горы перастаўляць, але ня маю любові, дык я нішто.*

*І калі я раздам усю маемасьць маю бедным, і аддам цела маё на спаленьне, а любові ня маю, дык няма мне ніякае карысьці.*

*Любоў церпіць доўга, далікатная яна; любоў не завідуе; любоў ня вывышаецца, не надзімаецца.*

*Ня выяўляецца няпрыстойна, ня шукае свайго ўласнага, ня хуткая да гневу, ня думае пра дрэннае;*

*Ня радуецца з крыўды, але цешыцца з праўды;*

*Усё пакрывае, усяму верыць, усяго спадзяецца, усё зносіць.*

*Любоў ніколі ня гэзьне: а вось прароцтвы — і тыя супыняцца, і мовы змоўкнуць, і веды зьніжтожацца.*

*Бо мы ведаем часткава, і часткава прарочым.*

*Калі-ж надыйдзе дасканалае, тады тое, што часткавае, шчэзьне.*

*Калі я быў дзіцянём, дык падзіцячаму гаварыў, падзіцячаму разумеў, падзіцячаму разважаў: а калі стаўся дарослым чалавекам, тады пакінуў дзіцячае.*

*Цяперака мы бачым быццам праз цьмяное шкло, здагадваючы-ся; тады-ж абліччам да абліччa: цяперака я ведаю часткава; а тады пазнаю гэтаксама, як сам я пазнаны.*

*А цяперака трываюць вера, надзея, любоў — гэтыя тры; але найбольшая зь іх зьяўляецца любоў.*

Зь Першага Пасланьня
Сьв. Апостала Паўлы да Карынцянаў

The Torch of Christ's Teaching — The First Protestant Monthly Magazine in Whiteruthenian, since 1933
*Editor and Publisher:* Rev. Dr. John Piotrowski
Mailing Address: 452 South Avenue, Syracuse, N.Y., 13204

## ЧАЛАВЕК І ЯГОНАЕ СУМЛЕНЬНЕ

Маскоўскі мітрапаліт Платон Леўшын будаваў сабе скіт у трох вярстах ад Троіцка-Сяргеевае Лаўры. У Платона працавала некалькі цесьлярскіх арцеляў. Аднойчы ў вадной зь іх здарыўся нячуваны праступак: У ваднага цесьлі ўкралі сакеру. Ня толькі ён астаўся бяз рук, але і ў арцелі адной сілай на цэлую сакеру стала меней.

Работнікі пробавалі проста гаварыць аб гэтым; думалі так і гэтак — нічога ня выходзіць.

Раптам аднаго зь іх ахінула думка:

— Пойдзем, сябры, да ўладыкі: ён да кажнае нашае працы блізкі і да нас ласкавы, трэба дадумвацца, на ўсё ён кемны. Папросім паказаць.

— Так і гэтак, уладыка сьвяты: зблудзіў нехта адзін, а ўсім гінуць. Прыходзіцца арцель разьбіваць і разыходзіцца ўсім у сваю сторану па сваіх хатах. Зрабі нам ласку — пакажы злодзея: мы яго, паскуцтва, зараз з арцелі выкінем.

— Ды-ж я не чарадзей, згадаць ня ўмею.

— Згадай на чым ведаеш, як сам можаш: мы цябе няволіць ня сьмеем.

— Я магу толькі адною сьвятою малітваю.

— Для нас усяроўна: спадзяемся на тваё добрае. Памажы дзеля Бога.

— Прыходзьце ўжо ў кельлю. Ды каб усе былі тварам. Уся арцель дазваньня.

Гэтак і зрабілі: усе прыйшлі дазваньня.

— Ці ўсе сабраліся? — спытаў Платон.

— Усе, — адказалі яму.

— Памолімся Госпаду, папросім Яго сьвятой міласьці. Станавецеся, сябры, і слухайце мяне, і паўтарайце кажны сабе словы малітвы.

— Вось, вось гэтак, — сказаў уладыка, калі ўсе ўстанавіліся шчыльна, плячо ў плячо, і выступіў толькі на крок стараста.

— Пачынаю! — і павярнуўся ў пярэдні кут да абразоў.

Пачаў мітрапаліт Платон чытаць малітву тым асабліва гучным і прыемным голасам, што глыбака западаў у душу і падабаўся ўсім.

Прачытаўшы малітву, ён хутка хацеў пераканацца: спытаў, не абяртаючыся тварам назад:

— Ці моліцеся вы, брацьця?

— Усе да аднаго молімся Богу радасна, — адказвалі яму стрыманымі, баязьлівымі і дрыжачымі галасамі кастрамскія прастакі.

— Усе вы моліціся, — а ці моліцца злодзей?

— Малюся, — прагаварыў ён чуць чутно і паслухмяна.

**С. Максімаў**

**(Пераклад з расейскае мовы)**

# Два браты --- дзьве мэты



Ігар Пятроўскі



Юры Пятроўскі

Пасьля дакананьня прадбачанага курсу на працягу трох гадоў на Сыракюзкім Унівэрсытэце, Ігар пераходзіць у Тоўсэн Стэйт Каледж у Балтімор, Мэрыленд.

Тут перад ім выступаюць дзьве задачы:

— Праца ў ролі выкладчыка эўрапэйскае гісторыі і заходняе цывілізацыі з адданьнем каля 75 % ягонага часу. Будзе гэта добрая нагода выпрабаваньня і пашырэньня атрыманае навукі і набыцьця патрэбнае практыкі.

— Другая задача, якая мае забраць рэшту часу — гэта далейшыя студыі з мэтаю здабыцьця дактарату.

Калі гэтыя радкі выходзяць выдрукаванымі з-пад прэсу, Ігар адбывае двухмесячнае падарожжа па Заходняй Эўропе, маючы на ўвазе мэты чыста навуковыя. З часу прыпадаючага на гэтае падарожжа, адзін месяц мае быць вызначаны на Галяндыю, у сталіцы якой, Амстэрдаме, Ігар мае правесьці дасьледчую працу, патрэбную для свае дысэртацыі.

//

Пасьля заканчэньня курсу, прадбачанага ў М.І.Т. для Мастэрс Дэгрі, у Кэмбрыдж, Масс., Юрка пераходзіць на далейшыя студыі ў Клівэлянд, Огайо, дзе ў Кэйс Інстітут оф Тэхнолёджі, мае працягваць свае студыі з мэтаю атрыманьня ступені доктара ў тэхналягічных навуках.

*ЯН ПЯТРОЎСКІ*

# Культура ў пэрспэктыве

## ПРЫНЦЫП, ЯКІ МОЖА БЫЦЬ ЗЬВЕДЗЕНЫМ ДА ДРЭННЫХ ВЫСНАВАЎ

**Запытай юнака, ён усё ведае.**
Старая кітайская пагаворка

### III

Часта малыя рэчы маюць далёка сягаючыя кансаквэнцыі.

Нехта выходзіць з простага залажэньня:

Я маю пасьведчаньне аб уканчэньні школы. Іншыя гэткага пасьведчаньня ня маюць. Адсюль раблю выснаў, што я маю рашаючы голас у дадзеным пытаньні.

Справа, якую маем на ўвазе, адносіцца да беларускае мовы і ўсяго таго, што зь ёю вяжацца.

Камплекс, у якім рэч разгортваецца, зьяўляецца ключом да зразуменьня тых мала ўхвытных культурных і псыхалягічных праяваў, якія мы сілімся выясьніць, ствараючы гэтым самым болей спрыяльныя абставіны да разьвіцьця духовага рэсурсу, неабходнага для завяршэньня апошніх мэтаў.

На пачатку нашага стагадзьдзя камплекс гэты адзначаўся тым, што ствараў прадумовіны да гутаркі і дыскусыяў лічаных людзей у справе, якая ў Нашаніўскую пару прывяла да стварэньня эпохі гэтага назову.

Але камплекс гэты ня меў і ня мае сталае хвормы. Ён знаходзіцца і будзе знаходзіцца ў трансфармацыі, якая ўзалежніваецца ад зьменнасьці на лепшае таго фактару, які адыгрывае першую ролю — чалавека.

Нядаўна я меў нагоду адведаць на маёй вуліцы ў Сіракюз адну не-беларускую славянскую сям'ю, якая прыбыла ў ЗША пасьля Другое сусьветнае вайны, і мае тут уласны дом. У часе гутаркі мы зыйшлі на тэму ўтрыманьня ў належным стане дому і эканамічнага аспэкту пры наяўнасьці выдаваньня кватэры тутэйшым людзям, што жывуць на ніжэйшым паверсе. Гаворачы пра спажываньне вады, газу і электрычнасьці, гаспадыня дому сказала: *Для нас хопіць 60-ці ватавая лямпачка, а амэрыканцу патрэбна 100-ватавая.*

Гэтае ейнае асьведчаньне зьвярнула на сябе маю ўвагу.

Існуе мусяць нейкі культурны камплекс, які выражаецца пэўнымі матэрыяльнымі вартасьцямі. Вартасьці гэтыя, як мернік, могуць выступаць усюды і прый-

маць рознае выражэньне. Можна ўжываць гэткую ці іншую лямпачку; можна брыцца штодня або раз на тыдзень; можна ехаць на такім ці іншым самаходзе; можна ўжываць хустачку да носа ці проста два пальцы; можна пражыць дзень з сям'ёю за адзін даляр і можна выдаць некалькі разоў болей; можна глядзець на тэлевізыйным экране такую ці іншую праграму, або чытаць такую ці іншую кніжку. Усё тут залежыць ад духовых вартасьцяў чалавека.

Тое, што здавальняла нашых бацькоў, не абавязкава мае здавальняць нас. І нашыя культурныя патрэбы насілу ці могуць здаволіць нашых дзяцей. І гэтак, як у сьвеце фізычным, кожны элемэнт паддадзены сваўму праву, гэтак і ў сьвеце духовых вартасьцяў існуюць правы, якія чалавек ня можа абыйсьці. Гэта тое права, якое на працягу доўгага часу зьвяло чалавека з дрэва, па якім ён "хадзіў" пры помачы сваіх чатырох канчынаў і прывяло да таго стану, калі нашчадак гэтага самага чалавека асьмеліўся прыняць на сябе адказнасьць, зірнуць, што робіцца на іншых плянэтах.

Вяртаючыся да нашага прадмету моўнае культуры, мы мусім сьцьвердзіць наяўнасьць таго самага нейкага ўкрытага закону прыцяжэньня ў бок культуры, які дзейнічае паміж намі і які мы ня можам абмінуць.

І гэтак, як ува ўсіх галінах людзкога прагрэсу выступае апазыцыя, маючая на ўвазе абарону старога парадку, гэтаксама і ў закранутай намі дзялянцы, будзе выступаць супраціў з мэтаю абароны здадуманых і псэўданавуковых прынцыпаў зьместу і хвормы.

Усюды там, дзе людзі прагрэсу выступалі з новымі ідэямі, хвормаю і новаю культураю, знаходзіліся абаронцы старога ладу, якія ў свомым для іх адчаю і глыбокаю вераю баранілі тое, што яны ўважалі за найвышэйшую для іх сьвятасьць.

Ня могучы абараніць сваіх прынцыпаў, яны адыходзілі часта ў лясы, распальвалі там г. зв. сьвяшчэнныя агні, тулілі да грудзей нейкія ім ведамыя сьвятісьці, наракалі, што сьвет іх не разумее і жывілі надзею, што надыйдзе час, калі людзі іх зразумеюць і ацэняць іхныя, як ім здавалася, асягненьні.

Але час гэтакі не надыйшоў. Усё, што зь імі сталася, гэта тое, што ў прадоньні часу постаці іхныя зьбляднелі на гэтулькі, што назат рэдка дзе астаўся сьлед іхнага існаваньня. Сьвет пайшоў сваею дарогаю.

У васнову кладзецца памылкавы пагляд, што, у дадзеным культурным камплексе, пасьведчаньне школьнае зьяўляецца магічным ключом да тварэньня і ацэны культурных і эстэтычных вартасьцяў. Бо тое, што зьяўляецца сродкам, мы не павінны ўтоесамліваць з мэтаю. Дасьведчаньне прыходзіць пазьней, калі мы толькі маем аб'ектыўны па-

гляд.

Кажны прагрэс — "пераход да вышэйшае ступені разьвіцьця" — крые ў сабе свомасьць дзеяньня, падобную да дзеяньня атомаў, і, як гэтакі, ня ведае ніякіх забабязаньняў, аўтарытэтаў, перашкодаў і тэрору, і разьвіваецца паводля аднаго толькі прынцыпу, імя якому свабода.

Адкідаючы часта памылковасьць аўтарытэту і выказваючы нашыя пагляды, мы, аднак, павінны высьцерагацца, каб, зьбіваючы адзін міт, ня ўпасьці ў памылку, якая можа крыцца тады асабліва, калі мы прыймаем паставу скрайнасьці.

Мы павінны выразна і ясна на гэтым месцы сказаць, што здабываньне школьнае асьветы, асабліва ў нашым культурным камплексе, астаецца першарадным пачынаньнем, да чаго нашым абавязкам ёсьць заклікаць кажнага — ад маладога да старога, памятаючы пры гэтым, што адукаваны чалавек не абавязкава можа быць інтэлігэнтным, а інтэлігэнтны чалавек не абавязкава адукаваным.

Няхай нам дазволеным будзе зілюстраваць нашую думку наступным:

Уявем сабе, што на мэдычным факультэце дадзенага ўнівэрсытэту знаходзіцца 200 абсальвэнтаў, якія ў гэтых днях выходзяць са школы, атрымліваючы аднолькавыя пасьведчаньні аб памысным заканчэньні прадбачанага курсу. Пасьля гэтага яны праходзяць пераважна ў шпіталях нейкі, прадбачаны правам дадзенае краіны, час практыкі і атрымліваюць упаўнаважаньне выконваньня прыватнае практыкі.

Цяпер, калі нейкі чалавек, чуючыся занядужаным, хоча адведаць лекара, дык, як гэта пераважна здараецца, ён ня ідзе да першага лепшага доктара, імя і агалошаньне якога ён можа знайсьці ў якой-небудзь публікацыі. Перад тым, як ён адчыніць дзьверы пачакальні лекарскага кабінэту, чалавек пераважна дарогаю гутарак, дарогаю рэкамэндацыяў даведваецца нешта пра дадзенага лекара і, знайшоўшы апошняга адказваючым ягонаму даверру, тады ідзе з візытаю да доктара.

Чаму зацікаўлены чалавек гэта робіць? — Ці-ж ня ўсе гэтыя лекары закончылі тую самую школу? Ці-ж ня ўсе яны атрымалі аднолькавыя пасьведчаньні і рэкамэндацыі як адпаведных для службы церпячаму чалавеку?

Церпячы чалавек не абавязкава ідзе па лініі нашых разважаньняў. Падсьведама ён вычувае нешта іншае, што можна было-б зрэасумаваць наступна:

Усе лекары маюць аднолькавыя пасьведчаньні, адбылі і адбываюць практыку. Але справа на гэтым не канчаецца. Тут выступае легіён фактараў, якія немагчыма вылушчыць коратка: Лекар — гэта індывідуум. І як гэткі, ён розьніцца ад кажнага іншага падобнага да сябе. Ле-

кар можа мець розны падход да чалавека, розную *здольнасьць* . . . Гэтым, сярод іншага, паясьняецца, чаму адзін зь іх выконвае сваю вольную прафэсыю ў вялікім людным месьце, а іншы ўсё сваё жыцьцё скаратае ў западлым маленькім мястэчку. Імя іншага лекара ўвойдзе на бачыны летапісу, на якім віднеюць гэтакія імёны, як Гіпакрат, Пастэр, Кох, Блейкўэл, Сальк . . . , а пра імя іншага лекара, апрача ягонае жонкі (калі ён жанаты), ніхто ня будзе ведаць.

Аднойчы ў трыццатых гадох, будучы прастуджаным, я адведаў аднаго лекара ў малым мястэчку на Беларусі. Доктар называўся З—ч. Як звычайна пры падобных візытах, лекар пытаецца мяне, ці я хварэў і г. п. Я адказаў, што бывалі прастуды, і пры гэтым успомніў, што ў маей вайсковай кніжцы недзе нанесены з перад дзесяцьцю гадамі запіс: zgęszczenie prawego szczytu płuc. У міжчасе лекар папрасіў мяне абнажыць грудзі. Ён слухаў, стукаў, пацісквaў і пасьля гэтага з павагаю сказаў, што было-б пажаданым, калі-б я мог на нейкі час паехаць на адпачынак у кліматычна здаровую ваколіцу. Прызнаюся, ён учыніў на мяне адпаведнае ўражаньне. — Калі пасьля гэтага лекар сядзеў пры стале і выпісваў нейкі фармуляр, прыводзячы свой вонкнвы выгляд у апратнасьць, я зазірнуў праз плячо доктара, і, на маё зьдзіўленьне, я прачытаў ягоную сьвежую запісь дыягнозы: zgęszczenie prawego szczytu płuc. — Цяпер я адразу вылячыўся. Бо скуль гэткае пададбенсва дыягнозы пасьля дзесяці гадоў. Мне выдалося, што гутарка пра сьвежае паветра — гэта прыказка: ”Паможа, не паможа, але не пашкодзіць“. Я падзякаваў яму і выйшаў аздароўленым.

Кітайская пагаворка кажа, што зямля хавае памылку лекара.

Тое, што часамі мы назіраем сярод лекараў, мы можам бачыць сярод людзей кажнае прафэсыі: сярод інжынераў, пабудовы якіх часамі завальваюцца, сярод сьвятароў, сярод адвакатаў, шаўцоў . . .

Гэтае самае — тут прыходзім мы да сутнасьці нашае тэмы — мы можам знайсьці і сярод філялёгаў. Розьніца толькі будзе тая, што, калі, скажам, сярод лекараў мы маем выбар з двух сот чалавек, дык у галіне нашае філялёгіі мы маем толькі ”аднаго“ чалавека. Самы бяскрытычны чытач прызнаціме нам, што тут мы маем вельмі абмежаваны выбар. Мы знаходзімся ў сьляпым завулку. Усё пастаўлена на адну стаўку!

І, як гэта дзіўным нам выдавацца можа, штодзенная практыка прыводзіць нас да лічных доказаў і кажа нам, што часта добры прынцып можа быць зьведзеным да дрэнных высnаваў.

□ □ □ □

# The Three Partitions of Poland

*By Harry I. Piotrowski*

The seeds of the division of the Polish-Lithuanian union by Russia, Prussia, and Austria may be traced to 1386 when Jagellon, Duke of Lithuania, married Jadwiga, heiress to the Polish throne, thus initiating the union of the two kingdoms.[1] More directly, the sorrows of this confederation may be said to have began with the Union of Lublin of 1569, which created the Polish-Lithuanian Commonwealt. For brevity' sake, the term Poland shell be used throughout thise paper. After 1569, the monarchy became elective when Sigismund Augustus died childless. These elected rulers, however, were at the mercy of the nobility (šlachta) who lawfully could refuse obedience to their monarch. One of the main features of this type of governmental institution was the "democratic" *liberum veto* which made it possible for only one member of the General Crown Diet to prevent the passage of a proposed measure.[2]

Beside refusing to bow to their nominal rulers, the nobles also opposed any alleviation of the lot of the serfs who composed the vast majority of the population and on whose support this "*šlachta* nation" could never really count. The Diet was transformed into an arena for the petty straggles of the nobles who only in rare cases did not neglect the welfare of the union. The land was worked by the abused serfs and frequently laid waste by the bitter straggles among the adherents of various faiths.[3] Although the Polish historian Oscar Halecki maintains that the eligarchy was unable to introduce measures to strengthen the nation because of constant foreign intervetion[4] and that Providence had punished the Poles for loosing their deep religious faith,[5] the blame for the degeneration of the country must be placed squarely upon the shoulders on the corrupt nobility since they were the ones who wielded political power. No wonder that the nationalistic Prussian historian Heinrich von Sybel was able to claim that the Poles had committed suicide.

When in October 1763, King Augustus III of Poland and Elector of Saxony died, Catherine II of Russia made the initial move leading to the partitions. In order to strengthen Russian influences in Poland which may be traced back to the days of Peter the Great when Augustus II of Poland was forced to place himself under Russian "protection" from Sweden, Catherine decided to place a Pole, upon the Polish throne, Stanislas Poniatowski, one of her former lovers,[6] who spent three years in Russia as the private secretary to the British ambasador Sir Hanbury-Williams. Backed by Russian military might and a Prusso-Russian agreement to act in concert in matters relating to Poland, Poniatowski was "elected" king by the Diet in September 1764. Catherine now virtually ruled Poland through her ambasador to Warsaw,

Nicholas Repnin. It was in this year that Russia ceased to renew its alliance of the Seven Years' war and adhered to the policy of the Northern Accord advocated by Nikita Panin who greatly influenced Catherine's foreign policy during the first half of her reign. Panin's scheme called for an alliance between the North European nations directed against France and Austria. Poland, being dependant upon the mercy of its neighbors, was in an uneviable position since the thoughts of partition naturally occurred to the monarchs of Russia and Prussia. The statement of Louis XIV's of France that "to aggrandize oneself was the worthiest and most agreeable occupation of a sovereign"[7] was quite readily accepted by the rulers of eighteenth century Europe, Catherine, Frederick the Great of Prussia, and Maria Theresa of Austria being no exeptions. They waited only for an excuse to partition their weak and practically defenseless neighbor. They did not have to wait long.

After the Seven Years' War the Polish nation experienced a remarkable rejuvenation. The need for reform was realized by a considerable number of the nobility and led by the powerful Czartoryski family, to which Poniatowski was related, the *liberum veto* was abolished and the financial, economic, and military institutions of the country were remodeled. The reactionary faction of the nobility, in turn, formed confederations to oppose the reforms and appealed to Repnin who was able, by exiling several reform-minded members of the Diet to Siberia, to restore the old order. In March 1768, another confederation was formed in the Ukrainian city of Bar which threatened to oust not only the Russians but also the weak Poniatowski. It was at this time that the king and the Czartoryskis blundered in calling for the assistance of Russian troops. They were under the illusion that the tsarina's forces would return home as soon as order was established throughout the land.[8] The Confederation of Bar was soon routed by the brilliant general Alexander Suvorov although France sent some aid to the insurgents and Turkey entered the war on the Polish side.

At the same time the problems created by the Roman Catholic persecution of the Protestants and Greek Orthodox in Poland gave Frederick and Catherine an opportunity to intervene in the internal affairs of the nation. It is doubtful if either monarch cared for the rights of the persecuted minorities. Still, the Russian historian S. M. Solovyev depicts Catherine as a very peaceful individual and contends that the partitions were caused mainly by the Polish refusal to grant the dissidents political rights.[9] Frederick's interest in Poland can be found in his desire to connect East Prussia with his western territories, not to reconquer lands originally ruled by the Teutonic Order.[10] This viewpoint is even held by the chauvenistic German his-

torian Heinrich von Treitschke who states that Frederick was not motivated to reclaim what Treitschke considers originally German lands.[11]

It appears doubtful that Catherine, as frequently stated, wanted to maintain a weak Russian-dominated Poland and was duped by Prussia into going along with the divisions since the might of Russia could have prohibited any unilateral action by Prussia. The Russian empress in all probability was guided by the tenet of Louis XIV, as was the Austrian queen. Their insatiable greed drove them to the first step in removing Poland from the political map of Europe. The answer to the academic question whether it was Catherine or Frederick who *first* suggested the partition is unimportant; besides, as the Austrian historian Adolf Beer points out, the thoughts of partition were mulled over by monarchs for over a century.[12] It has been stated that Maria Theresa is the only one who has never been accused of inventing the partition,[13] but it was under her rule that Austria invaded the Polish territery of Zip in 1769. Although Perkins state that she opposed the policy of her foreign minister Prince Kaunitz and her son, the future Joseph II,[14] it seams doubtful that she could not have prevented this action if she did not approve. Kaplan maintains that this move by Austria upset the balance of power, thus causing the intervention of the other two powers and the initial division of the hapless nation.[15]

In August 1772, the three powers signed a treaty of partition in St. Petersburg by which Russia received the White Russian lands of Vitebsk, Polotsk, and Minsk; Austria received Galicia; while Prussia took Posen and Polish Pomerania. These three tried to justify their actions because of the anarchy in Poland. V. O. Kluchevsky, the emminent Russian historian, questions the wisdom of the Russian actions. He maintains, as do others, that Russian interests would have been served better if the tsarina could have retained control over a nominally independent Poland which, strengthened by the measures of the Czartoryskis, could have developed into a valuble ally against the Ottoman empire.[24] Instead, both Prussia and Austria were strengthened the rest of Europe standing idly by.

Despite these events the renaissance in Poland continued. Hugo Kołłątaj, as rector of the Jagellonian University at Cracow did much to raise the standards of that institutions,[16] while Stanislas Konarski, a member of the Order of Piarists, introduced education for the outcast and destitute.[17] Cultural establishments were erected throughout Warsaw between 1760—1780 and Stanislas Staszic urged his countrymen to work for a strong Poland. In 1790, he wrote in passinate terms in his *Warnings for Poland* that

> Five-sixth of the nation stands before my eyes. I see millions of human beings, of whom some go half-naked, others are clad in

skins or rough home-spun — but all are lean, wasted, covered with hair and black with soot. Their eyes are sunken, they toil day in day out, torn by asthma. Moody, stupid and impored upon, they feel little and think little. That last is their greatest good fortune. Scarecely a single reasoning soul can be seen among them . . . The name chłop is held in the lowest disdain.[18]

In 1788, Andrew Zamoyski was commissioned by the Diet to draft a new code of government and on May 3, 1791, a new constitution was passed by acclamation in the Diet. The *liberum veto* was abolished, while the monarchy was strengthened and became hereditary. Russia at that time was engaged in a conflict with Turkey and therefore was then unable to object to this show of Polish independence. A Prussian-Polish alliance had been concluded with the new king of Prussia, Frederick William II, and it appeared that the Polish drive to establish a strong, free nation might be successful. However, in 1792, Catherine, after disposing of Ottomans, was able to answer the call for aid by the pro-Russian Potocki family who had formed a confederation at Targowica. Poniatowski halted his inefective military maneuvers and submitted to the dictates of the tsarina. A Diet was summond at Grodno in June 1793, to sanction the second partition of Poland to which the Prussians, who had broken their treaty of 1788 with Poland, and the Russians had agreed in 1792. This "dumb session" at Grodno, at which no Polish representative consented to the new outrage, only to have the silence interpreted by the partitioning powers as a sanction of this act, was at the mercy of the victors.

The men of the Four-Year Diet had worked hard for reforms (1788-1792) since they knew they may be partitioned again. These individuals were able to save the Polish nationality by giving its people a renewed faith and ideals to cling to.[19] Catherine, however, stated that she was not opposing reform, but only Jacobinism. Since Prussia was bitterly opposed to Austria at the time, it is only natural for Sybel to maintain that Austrias's Leopold II attempted to form a Polish-Saxon hereditary monarchy with the aid of the Diet which, of course, forced Frederick William to take part in the second partition of Poland.[20] However, what actually had happened was that the Poles, who had paid for their degeneration with the first partition, were forced to pay for their regeneration with the second division. Poniatowski had made the fatal error of attempting to reason with two power- lusting monarchs. Russia took lands in White Russia, Volhynia, Podolia, and Lithuania and the Prussians obtained territories in the heart of Poland, including the cities of Danzig and Thorn. Austria was not invited to the looting party this time. While the first partition did not seal the fate of the nation and in some cases may be regarded as a

"salutary operation",[21] the second was to be the ruin of Poland.

After this latest Prusso-Russian act of aggression, the Poles rose again in a bid for freedom before their fatherland was to be subjugated again. Under the able leadership of the valiant Thaddeaus Kosciuszko who had fought with George Washington in the American war for independence, the lesser gentry rose first at Cracow in March 1794, and the following month defeated the Russians at Raclavica. The Russians were then driven out of Warsaw and Vilna by other uprisings and as a result Frederick William and Catherine hastened to conclude a pact which called for joint intervention in Poland. In November 1794, Suvorov stormed and sacked Praga, a suburb of Warsaw on the right bank of the Vistula. The resulting slaughter soon broke the illequipped patriot troops.[22] By that time Kosciuszko had been wounded in a previous battle and been captured by Suvorov. With the fall of their gallant leader, Poland had ceased the exist as a political entity.

In October 1795, the third and final division of the once mighty Polish-Lithanian kingdom occured. When it came to allotting the territories, Catherine favored Austria over Prussia for its benevolent neutrality during the campaign against Kosciuszko's forces and also to restore the balance which had been upset by the second partition when Austria was excluded. Leopold II received Cracow, Lublin, and Sandomir while Prussia took Warsaw. The Russians obtained the long coveted Duchy of Courland and the rest of Lithuania. Europe once again for various reasons stood by and watched. During the third division the question was no longer how much land should be taken from Poland, but how much each robber should take from the other two.[23] Lord also stated that if this partition would have only included the two Germanic powers, it may never have taken place, since either side may have possibly passed up the chance for an acquisition just to deprive the other of an increase in territory.

Poniatowski received political asylum in Russia where he lived his remaining years. His actions are subject to wide interpretations by historians. While some claim that he sold out to the Russians, that he always desired to deliver his homeland to the empress, and that he worked to undermine the Diet's achievements, there are others, and they have the better argument, that he was weak in character, trusting the Russians who at that time were far advanced in the game of *Realpolitik,* and indicisive. After his country had seased to exist there was no other place for him to go than the country of the German-born tsarina who had created a puppet out of him. Catherine had achieved what she set out to do although it is debateable whether her policies were conducted in the best interest of the vast Russian empire. She had allowed Prussia, which was barely recovering from the brouncing it had received by Russian troops during the Seven Years' War, to

expand its frontiers eastward and at the same time allowed the Austrians to became the overlords of a considerable number of Greek Orthodox Slavs. It was over the rights of these Slavs that the empress supposedly had gone to war against the Poles in the first place; now many were to be dominated by another Catholic power. Prussia took most of the "ethnic" Polish lands, however, it is only due to the accident of geography that the Russians did not incorporate into their empire a large Polish population, and not, as it sometimes pointed out, because the Russians were only reclaiming what had belonged to them at one time. V. I. Lenin called the three partitions of Poland acts of imperialism. His conclusion, although derived from prove a particular point of view, appears to be closer to the truth than the justifications given by the various nationalist historians for the destruction of a nearly defenseless state.

Poland had thus vanished, only to reappear after the First World War. During the reign of Paul of Russia it was even agreed to outlaw the name Poland. The three partitioning powers hat all thought that they had acted in their self-interest yet, especially in the case of Russia, the dismembement of the once proud nation did not bring the victors many gains nor did the partitions settle anything. Prussia was soon to lose Warsaw and Austria was to be plagued with the problem of the national minorities which lasted until the First World War. One can argue that these problems are still not solved. Poles were to join Napoleo Bonaparte in his march to Moscow and they were to rise against their Russian overlords in 1830 and 1863. Adolf Hitler and Joseph Stalin tried once again to settle the so-called Polish question and in 1956 the Poles followed in Kosciuszko's foodsteps to attempt to maintain their independence from a foreign master.

---

NOTES

1. Oswald P. Backus III maintains that this alliance started the political competition between the Poles and the Lithuanians and established cultural diversities which were responsible for preventing the establishment of an effective union by the Jagellonian dynasty. "The Problem of Unity in the Polish-Lithuanian State", *Slavic Review,* XXII, No. 2 (June, 1963), 411-431. See also Joseph Jakstas' article "How Firm was the Polish-Lithuanian Federation?" *Slavic Review,* XXII, No. 2 (June, 1963), 442-449.
2. For a detailed analysis of the Polish governmental institutions during these times, see P. Skwarzyński, "The Constitution of Poland Before the Partitions", *The Cambridge History of Poland, 1697-1935"* (Cambridge University Press, 1941), 49-71.
3. An illuminating account of the social classes in Poland is presented by Nikolai Gogol in his novel *Taras Bulba,* 1835.

